Цана асобнага нумару 20 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№. 4. Вільня, Нядзеля, 31 Студзеня 1926 г. Год II.

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Завальная вул. 7. — (Wilno, ulica Zawalna 7).

Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 6 гадзіны апрача сьвята.

Газэта выходзіць раз у тыдзень.

Падпіска на адзін месяц 1 зл., на 3 мес.—2 зл., на 6 мес.—4 зл., на год—8 зл.

Перамена адрэсу 30 гр.



**Орган Беларускага Сялянскага Саюзу.**

## Беларусы і польская зямельная „рэформа“

У гэтым годзе, як ужо мы пісалі, пачынаецца ўвядзеньне ў жыцьцё закону аб зямельнай рэформе. Зьмест яго быў надрукаваны ў адным з папярэдніх нумароў нашае газэты.

Гэты закон мае на мэце ня столькі здаволіваньне страшнае патрэбы зямлі нашага сялянства, сколькі захаваньне і ўзмацненьне польскага элемэнту на нашых землях.

Нашаму селяніну будзе дадзена тое, на што будзе панская ласка, якая апрача кіданьня беларусу крошак з польска-панскага стала ніколі далей ня пойдзе. Ды гэта і зразумела: усякаму свая сарочка бліжэй да цела—паляку польская, жыду жыдоўская, беларусу беларуская і г. д.

Новы закон сягае так далёка, што ня толькі пазбаўляе наш народ права на тую зямельку, на якой дралі розгамі нашых продкаў, але нават і надзеі атрымаць яе ў блізкай будучыне.

Гэны закон ёсьць новая спроба польскіх шавіністаў застрахаваць і ўзмоцніць польскасьць на беларускіх землях з двух бакоў.

З аднаго боку ён імкнецца захаваць у нас польскія шляхоцкія гнёзда, а з другога боку пасадзіць як мага больш паўпанкоў — асаднікаў палякоў.

Каб дапяць першае мэты, на засадзе гэнага закону, памешчыку ў этнаграфічнай Польшчы пакідаецца 180 гэктараў, а на нашых землях 300 гэктараў. Гэта зроблена дзеля таго, каб захаваць у нашым краі культурныя польскія сілы, якія, маючы ў сваім уладаньні досыць вялікія маёнткі (300 гэк. зямлі ворнай з сенажацямі і ў дадатак яшчэ лес) маглі-б быць эканамічнымі гаспадарамі краю і чмуціць нашага селяніна, паючы яму на вуха аб дабрадзействах польскае культуры.

Словам, закон аб рэформе рольнай пакідае нам апякуна ў асобе польскага пана.

Але-ж гэтых паноў у нас ня надта шмат, а нас беларусаў мора. Гэтае мора можа падмыць і абваліць такія слупы польскасьці. А дзеля гэтага іх трэба падперці. Такімі падпіркамі паўпанкамі і будуць палякі асаднікі, якія новаю хваляю хлынуць у наш край, забяруць нашу зямлю і ў дадатак стануць вучыцелямі, гмінными сэкратарамі, войтамі і г. д. Сьмела скажу і не памылюся, што ад кавалка зямлі ў Заходняй Беларусі не адмовіцца ані польскі малазямельны ці беззямельны селянін, ані польскі інтэлігэнт, ані польскі рабочы. Яны сядуць на зямлю і забудуць лёзунгі: „мая бацькаўшчына ўвесь сьвет“, „усе людзі брацьця“, а запяюць з другое опэры: „нам жыта горба, а вам вялікая торба“. Такія паны асаднікі з польскіх рабочых ці сялян, едучы ў наш край, могуць нават прывязьці з сабою чырвоныя штандары на той выпадак, калі-б зрабілася якая завяруха, каб выйсьці з імі і замест слоў: „мне жыта горба, а табе вялікая торба“, крычаць: „табе зямля, а мне зярня“ — табе праца катаржная, а мне прэдсядацельства ў іспалкоме.

На гэтую справу мы павінны глядзець проста па мужыцку: у этнаграфічнай Польшчы і зямля і служба польскаму селяніну і рабочаму, а ў нас—нашаму. Мы польскаму селяніну і рабочаму кажамо: ты брат мой, а еж хлеб свой. Мы не велікарусы, якія маглі, маючы нязьлічаныя абшары зямлі, казаць: „до нас далеко, до нас не дойдут“ або „земли всем хватит“.

Калі мы ўважліва прачытаемо новы зямельны закон, дык убачым, што тварцы яго мелі простую мэту—палепшыць матар'яльнае становішча польскага рабочага і польскага селяніна коштам беларускага селяніна і беларускага рабочага (парабка ў маёнтку).

А што будзе так, то гэта відаць ня толькі з §§ 51, 52 і 53, але і з тых папраўак Сэнату, якія прыняты Соймам.

Як у Соймавай камісіі, так і ў Сойме беларускія паслы дабіваліся таго, каб даць нашаму селяніну найбольш магчымасьці атрымаць зямлю, дзеля чаго і стараліся правясьці да § 51 папраўку з двух слоў: „poblizkich wsi“ (блізкіх вёсак). Такім чынам пачатак гэтага параграфу ў Соймавай рэдакцыі быў такі: „парцэляваныя абшары павінны быць скарыстаны перадусім на павялічэньне карлаватых (маленькіх) гаспадарак *блізкіх вёсак* (poblizkich wsi. Гэтыя два астатнія словы выкінуты Сэнатам; на што Сойм і згадзіўся.

Ясна, калі-б гэтыя два словы былі ў законе, дык зямлю атрымалі-б блізкія вёскі, а калі яны выкінуты, дык значыцца, што зямлю можна аддаць і ня жыхаром блізкай вёскі, а камусьці другому — жыхаром далёкай вёскі. Можна, напрыклад, у павеце Лідзкім даць зямлю жыхаром павету Кракоўскага. Вот чаму выкінуты гэтыя два словы.

У тым-жа § 51 гаворыцца, што зямля будзе парцэлявацца на рабеньне новых самастойных гаспадарак. Тут ужо проста без памылкі можна сказаць, што такія гаспадаркі будуць давацца выключна паляком, бо калі заканадаўцы баяліся даваць пакрысе жыхаром „poblizkich wsi“, то тым бардзей ім не дадуць цэлых гаспадарак. Тут будуць цёплыя куткі паўпанкам асаднікам, а не беларусу-мужыку.

Польскай большасьці было і гэтага мала: яна, відаць, баялася, каб ня вышла як небудзь так, што волей-няволей зямлю прыдзецца даць мяйсцовым сялянам. І вот яна ў пункце другім таго-ж параграфу даець права Міністру Зямельных Рэформ вызначыць увесь парцэляваны маёнтак, ці яго частку, кандыдатам паветаў ці гмін асабліва густа населеных (разумей Кангрэсоўка, Пазнань).

Згодна з гэтым пунктам, нават парабак беларус, праслужыўшы доўга ў парцэляваным маёнтку, можа не атрымаць з яго кавалка зямлі, а яму запрапануюць у другім маёнтку. Гэта значыць, дзенебудзь далёка ад Бацькаўшчыны „ў чорта на кулічках„ мо' кусок пяску ці каменьня. А калі адмовіцца ад такога дабрадзейства, дык яму дадуць 500 злотых і пусьцяць на ўсе чатыры стараны, даўшы яму магчымасьць ці паміраць з голаду, ці ісьці на службу, але ўжо не да пана, а да паўпанка—асандніка. (Далей будзе).

## Беларускі выдавецкі рух у Вільні у 1925 годзе.

Беларускі выдавецкі рух у Вільні апошнімі гадамі замёр ледзь што не зусім.

Мінулы год у гэтай галіне прадстаўляецца проста катастрафальна, бо калі ў пазалеташнім 1924 годзе можна было налічыць некалькі дзесяткаў выданых беларускіх кніжак, то ў мінулым 1925 годзе, колькасьць іх раўняецца 5-ці, вось яны: 1) **юбілейная кніжка аб Фр. Скарыне, пяра кс. Ад. Станкевіча**, 2) **„Дрыгва“** — драма ў 6 актах **Фр. Аляхновіча**, 3) гаспарская кніжка **Я. Пачопкі—„Гародніцтва“**, 4) Беларускі гаспадарскі каляндар на 1926 год і 5) невялічкі беларускі сьпеўнічак—**Ст Станкевіча**.

Вось на жаль і ўсё, ня лічучы, сьценнага, ды-й сканфіскаванага адрыўнога календароў на 1926 год.

Калі прыгледзімся бліжэй да гэтага сумнага зьявішча, дык праканаемся, што галоўных прычын ёсьць некалькі; дзьве з іх будуць спэцыяльна беларускія, трэцяя—агульна-краёвага характару.

Да прычын спэцыяльна беларускага характару належаць: з аднаго боку нястача беларускае інтэлігэнцыі, якая складае звычайна галоўны кантынгэнт патрабіцеляў друкаванага слова, з другога—слабаватая яшчэ нацыянальная сьведамасьць сярод беларускіх сялянскіх масаў.

У выніку гэтага кніжка ня мае належнай пашыранасьці і запатрэбаваньня, а выдаўцы ўстрымліваюцца ад выдаваньня новых беларускіх кніжак, ня бачучы ў гэным карысьці.

Да прычын агульна краёвага характару належыць, пануючы ў нас, фінансавы крызіс і зьвязанае з ім згаленьне грамадзянства, пры якім адны ня могуць купляць кніжак, а другія ня маюць за што выдаваць іх; ў рэзультаце ўсяго гэтага кнігарні перажываюць пэрыяд цяжкога застою.

Ёсьць яшчэ адна вельмі характэрная прычына значна ўстрымліваючая пашыранасьць і кольпортаж беларускага друкаванага слова, — гэта ёсьць страх перад судоваў адказнасьцю за чытаньне, купляньне ды пашыраньне беларускіх кніжак і газэт, які паўстаў на грунце істнуючых у нас ненармальных палітычных адносін.

Вось-жа ў гэткіх, здавалася-б, безнадзейных абставінах, здарыўся ў месяцы сьнежні мінулага году надта цікавы і важны факт, які абяцуе значна папрравіць палажэньне; справа ў тым, што беларуская кнігарня імкнучысь да зацікаўленьня беларускага беларускага грамадзянства родным словам, абвесьціла ў пачатку сьнежня **„2 тыдні таннай беларускай кніжкі“** ад 1 да 15 сьнежня, якія пасьля прадоўжыла яшчэ на 2 тыдні, уключна ажно да 5 студзеня б. г.

І вось здарылася нейкае вялікае парушэньне народу беларускага, якога ніхто не спадзяваўся.

Кнігарня была фармальна завалена паштовымі заказамі з правінцыі, а і мястовая публіка — асабліва моладзь — парабіла вялікія закупы, ня ўстрымліваючыся ад купленьня на'т найбольш салідных і каштоўных твораў.

Трэба спадзявацца, што раз ужо выкліканае зацікаўленьне родным словам не загасьне сярод беларускага грамадзянства, а выдаўцы, бачучы разгрузку кнігарні ад старых запасаў тым ахватней возьмуцца да друкаваньня новых беларускіх кніжак.

Дык у добры час! **Бібліафіл.**

# З газэт.

Украінская газэта „Діло“ зьмясьціла цікавую стацьцю пад загалоўкам „Унутраннае непаразуменьне ў Р. К. П.“, якую мы падаём цалiком:

„Апошні 14 зьезд расейскае камуністычнае партыі мае вялікае значэньне на будучы ўклад гаспадарчых і сацыяльных адносінаў на ўсей тэрыторыі С. С. С. Р. Фармальная істота непаразуменьня месьціцца ў талкаваньні навукі Леніна. Ленінградзкая (Петраградзкая) група, якая тварыла апазыцыю на апошнім зьездзе, састаўляючая 60 сяброў, пад кіраўніцтвам Зіноўева, высунула проці палітыкі цэнтральнага камітэту партыі, або лепш проці яе палітычнага бюро ў Маскве два паважных закіды: 1) надта вялікую паддзержку сярэдняка на вёсцы, што, па думцы апазыцыі, не збліжае, а аддалее яго ад бедняка і што з дня на дзень сярэдняк багацее (акулачываецца) і замест зьліжацца да бедняка, прэцца да прыязьні з гультаём; спыненьне „раскулачываньня“ вёскі і спыненьне панаваньня незаможных у вёсцы, адкрывае дарогі да “індывідуальнага капіталістычнага строю“; 2) сыстэма „Нэпу“—ёсьць сыстэмаю дзяржаўнага капіталізму, а для Леніна „Нэп“ быў адступленьнем ад камунізму на якісь час, а не на заўсёды.

Ідэалізаваць „Нэп“, як шлях да сацыялізму ня можна, бо гэта ёсьць насьмешкаю над камунізмам. Ня можна цяперашняга дзяржаўнага промыслу СССР уважаць за промысл сацыялістычны, бо ён залежны ад г. зв. рыначнае стыхіі, якая што раз то больш скрапляецца ў залежнасьці ад усё новых уступак радавае улады на карысьць сялянству.

Ня можна сказаць работніку, што такая-то дзяржаўная фабрыка, у якой ён працуе, ёсьць чуць-што ня зьдзейсьненым ідэалам сацыялізму, бо гэта былі-б кпіны. На цяперашніх дзяржаўных фабрыках выкарыставаюць работніка ня менш, як перад вайной.

Апазыцыя паднясла вышэй сказаныя закіды па адрасу пануючае палітыкі, прызнала гэтую палітыку шкадліваю, але ад сябе нічога канкрэтнага не запрапанавала. Яна і не магла запрапанаваць, бо-ж усе дэкрэты пра „Нэп“, пра прыпыненьне „раскулачываньня“, пра ўцягаваньне ў грамадзкае, а ў некатарых выпадках і ў дзяржаўнае супрацоўніцтва сярэдняка, яна разам ухвальвала з тым-жа цэнтральным камітэтам і палітбюром, проці якіх цяпер выступае.

У дужа цікавыя, а мяйсцамі на‘т пікантныя дробязі дыскусыі на апошнім зьездзе мы ня ўходзім. Былі мамэнты ня смачныя, часамі звадзіліся да асабістых парахункаў паміж паасобнымі павадырамі.

Дайшло да таго, што Каменеву напр. зьезд не дазволіў адчытаць рэфэрату, а Зіноўева абзывалі праціўнікі — дэмагогам, дурнем і г. д. Ня мала дасталося і Крупскай (удаве па Леніне).

Прыгледзіўшыся да істоты самога канфлікту, мы мусім дайсьці да вываду, што з Ленінградзкаю апазыцыяй пачаўся вялікі зацяжны канфлікт між цяперашняй дзяржаўнаю сыстэмай праўленьня ў СССР і самым чыстым камунізмам.

Апазыцыя мае цалком слушнасьць, што шлях, на які ўступіла цяпер палітыка цэнтральнага камітэту, не вядзе да сацыялізму, а якраз наадварот. Староннікі цяперашняе палітыкі, якія маюць вялізарную большасьць, пярэчаць цьверджаньню апазыцыі. Але гэтыя запярэчаньні ні на што не здадуцца. Ленін рабіў экспэрымэнты з „Нэпам“, з сялянствам і з чым толькі было трэба, уважаючы іх за пераходныя, бо верыў у сусьветную рэвалюцыю. Цяпер адносіны ў Эўропе стабілізуюцца, бальшавікі цьвярдзьць, што не, але мусяць прынараўлівацца да абставін, мусяць абмежавацца закрапленьнем здабыткаў рэвалюцыі ў сябе, пакінаўшы на баку сусьветныя пляны. Прававерныя камуністы цьвердзяць, што ў аднэй дзяржаве ня ўдасца асягнуць камуністычнага ідэалу (Зіноўеў), а іх праціўнікі запэўняюць, што сацыялістычны ідэал можна асягнуць на тэрыторыі аднае дзяржавы. Гэтыя апошнія ня хочуць прызнацца да таго, што сапраўды яны аддаляюцца ад свайго ідеалу. Яны наагул гэтыя пытаньні адхіляюць з парадку, ды сіляцца даказваць, што мусяць паступаць так, як паступаюць, бо інакш усё можа праваліцца.

Знача, справа дайшла да ратаваньня самое сыстэмы і сваіх становішчаў на чале яе, ня гледзячы на тое, ці гэтая сыстэма згаджаецца з літарай камунізму, ці не. Клешчы неўмалімых абставін змушаюць адступаць, застаўляюць у сябе гаіць раны рэвалюцыі, а не паглыбляць іх.

Гэткая палітыка большасьці. Меншасьць, або апазыцыя, здае сабе справу з усяго ліха і крычыць аб гэтым, але ня мае ніякага лякарства на яго. Вот тут і месьціцца трагэдыя расейскага камуніму.

У ва ўсей гісторыі непаразуменьня знаменна тое, што цяпер апынуліся першымі на індэксі камуністычных гэрэтыкаў (ў разуменьні большасьці), як раз тыя, што яшчэ ня даўна, востра судзілі Троцкага ды дамагаліся нават выключэньня яго з партыі. Зорка Зіноўева і Каменева пачынае цямнець. У Ленінградзе ідзе ўжо сільная акцыя, каб пры найбліжэйшых выбарах у ленінградзкі Выканкам праваліць яго. Зіноўеў напэўна ў прышласьці ня будзе старшынёю Камінтэрну.

Ды ён, відаць, і не паддаўся і ня дужа разкаяўся, бо вось найноўшыя весткі кажуць, што Зіноўеў унёс пратэст у палітбюро проці ўчасьця СССР у камісіі Лігі Народаў для спраў разбраеньня.

Цяпер ужо не памогуць нават найэнэргічнейшыя пастановы партыйных зьездаў аб правільнасьці палітыкі Цэнтральнага Камітету і Палітбюро, не памогуць найвастрэйшыя асуджэньні апазыцыі, не памогуць пагрозы для партыйных гэрэтыкаў, ці нават і зьдзейсьненьне гэтых пагроз, бо справа мае глыбокую ідэйную падкладку.

Тут рэч ужо не ў асобах!

Камунізм не пакрываецца цяпер, як гаварылася, тэю палітычнаю сыстэмаю, якая заведзена ў СССР, ня гледзячы на тое, што яна ўведзена са згодаю і волею большасьці кампартыі. Цяперашняя сыстэма бальшавіцкае гаспадаркі, а нават і сацыяльнае палітыкі, абапёрта на кампрамісах і ўступках, ня можа сдаволіць прававерных камуністаў. Яна не здаволе іх і ў прышласьці, бо пануючая камуністычная большасьць, не дапусьціць да павароту на шлях чыстага камунізму, бо паварот гэты зьнішчыў-бы і зруйнаваў-бы нават тыя невялікія дасягненьні дзяржаўна-творчыя, якія ўжо істнуюць.

Дык апазыцыя ў кампартыі ня зьгіне ўжо ніколі, як ня зьгіне сама ідэя камунізму, якую не пад сілу ажыцьцёвіць маскоўскім насьледнікам Леніна. Большасьць партыйная ўступіла на шлях апартунізму, а ўсялякі апартунізм мусіць мець сваіх ідэйных ворагаў, а тым больш мусяць яны быць у кампартыі, якая прысваівае сабе манаполь рэвалюцыйнасьці. Тое, што распачалося, ёсьць толькі пачаткам. Апазыцыя будзе ўзрастаць з дня на дзень прапарцыянальна да ўзросту капрамісаў і ўступак з боку апартуністычнае большасьці. Ясна, што гэта мусіць аслабіць партыю, але напэўна яе ня зьнішчыць. Зьнішчыць яе можа канфлікт з некамуністычнымі масамі, якія стараюцца выкарыстаць усё, нават найдрабнейшыя ўступкі для сваей кансалідацыі, ды змушаюць сваіх апартуністычных правіцеляў да што-раз то новых уступкаў. Партыя мусіць ісьці на спаткаצьне масе, бо яе баіцца. А ўступкі гэтыя ўсёроўна масу не здаваляюць. Дык скарэй ці пазьней наступе канфлікт. Унутраннае партыйнае непаразуменьне толькі прычыніцца да ўзмацненьня непартыйных масаў і да прысьпяшэньня канфлікту між імі ды ўсею партыяй“.

# Віхор.

Б‘е у шыбы вецер дзіка,
Напявае, нібы хор, —
Як-бы нейкая музыка
За вакном гудзе віхор.
Мкнецца, мкнецца, рвецца, рвецца
І здаецца нейкі конь
З ездаком у даль нясецца —
Прэцца сьмелая пагонь...
Сьціхне ветру гуд шалёны —
Прыпыніў яздок каня.
Аглянўўся. — Б‘е ў страмёны...
Зноў шалее віхура...
Стукне дзедам, енкне дзіцем,
Б‘е у шыбы лісьце дрэў...
За вакном зьвініць музыка,
Дзіўны, цудны нейкі сьпеў.

І—ч.

# Ад Адміністрацыі „Сялянскай Нівы“.

Паведамляем усіх падпішчыкаў і чытачоў „Сялянскай Нівы“, што ад 1 студзеня 1926 г. ўвайшло ў сілу новае распараджэньне аб прыйме падпіскі на газэту.

А іменна: з 1 студзеня с. г. кожны падпішчык газэты можа выпісаць яе на сваей пошце і заплаціць там грошы. Паштовыя ўрады прымаюць падпіску толькі **паміж 15 і 25 кожнага месяца** на наступны месяц. Але таксама можна выпісваць газэту і прысылаць грошы на яе ў Рэдакцыю газэты, як гэта было раней (przekazem pocztowym).

Кожны падпішчык, жадаючы перамяніць свой адрас, можа гэта зрабіць на сваей-жа пошце, адначасна паведамляючы аб гэтым рэдакцыю.

# Цярністы шлях беларускай школы у Польшчы.

Прапазыцыя паслоў Беларускага Клюбу ў справе прасьледаваньня праз польскі ўрад беларускага школьніцтва і нарушэньня праз гэта Трактату падпісанага ў Версалі ў 1919 г. між Саюзнымі Дзяржавамі і Польшчай, а так-жа арт. VII Мірнага Дагавору між Польшчай і Расеяй, падпісанага ў Рызе 18-га сакавіка 1921 года.

(Працяг).

Ад часу ўваходу ў жыцьцё ўставы языковай пагоршыла палажэньне ня толькі беларускага публічнага пачатковага школьніцтва, але і беларускіх прыватных сярэдніх школ. Мін. Вызн. Рэліг. і Асьветы Публічнае выдаў загад 23.IV. 1925 г. L. 4022/22—II—D., на моцы якога навука гісторыі і геаграфіі агульнай у сярэдніх школах з няпольскім языком выкладовым павінна адбывацца ў мове польскай. Трэба адзначыць, што апроч гісторыі і геаграфіі агульнай, дасюль выкладаюцца ў гэтых гімназіях у польскай мове гісторыя і геаграфія Польшчы, польская мова, польская літэратура з навукай аб сучаснай Польшчы. Агулам у тыдзень гімназіі маюць 44 гадзіны лекцыяў з польскай мовай. Уводжаньне-ж яшчэ гісторыі і геаграфіі агульнай у мове польскай давядзе да таго, што беларускія гімназіі будуць мець больш прадметаў у мове польскай, як у беларускай.

Не згаджаючыся зусім на ўводжаньне ў жыцьцё ўспомненага загаду Мін. Асьв., пасольскія клюбы: Клюб Беларускі, Нямецкі, Кола Жыдоўскае, Беларуск. „Грамада“, Клюб Украінскі 11 лістапада г. г. унясьлі ў Сойм супольную адпаведна ўматываваную прапазыцыю аб скасаваньні распараджэньня Мін. Асьветы з 23.IV. 1925 г. № 4022/25. II—Д.

Цьверджаньне, што ўрад, выдаючы распараджэньне выканаўчае да ўставы, меў на мэці не дапусьціць да паўстаньня ні аднэй беларускае школы, цалком спраўдзілася. Для прыкладу падаём некалькі фактаў, датычачых увядзеньня ў жыцьцё названае ўставы.

I. У справе сьцьверджаньня дэкларацыяў школьных падаём зьмест просьбы прысланай у Беларускі Клюб праз бацькоў, маючых дзяцей у школьным веку. Просьба гэтая была далучана ў Інтэрпэляцыі Белар. Клюбу 27 сакавіка 1925 г. № 215: „Мы ніжэйпадпісаныя жыхары вёскі Стары-Свержэнь і м-ка Новы-Свержэнь, Стаўпэцкага пав. гэтым паведамляем, што інтэрпэляцыю № 192 атрымалі, але дзякуючы ей справа не зьмянілася.

Па атрыманьні інтэрпэляцыі і ўзяўшы Дзен. Уст. № 3—25 г., мы пайшлі да войта і, на моцы адпаведнае ўставы і распараджэньня, дамагаліся сьцьверджаньня нашых подпісаў на дэкларацыях аб ператвараньні польскіх школ на беларускія. Войт, не зьвяртаючы жаднае ўвагі на гэты Дзеннік Устаў, заявіў, што стараста яму прыказаў не сьцьвярджаць подпісаў на школьных дэкларацыях, а адсылаць да натарыўса. Таго-ж дня 13.III. 1925 г. з Дзеннікам Устаў № 3 мы зьвярнуліся ў стараства. Самога старасты ня было і нас прыняў заступнік, які сказаў, што ён гэты Дзеннік так-жа атрымаў і зараз-жа перашле войту нашае гміны загад аб сьцьверджаньні подпісаў.

16.III. 1925 г. мы ўзноў зьвярнуліся да войта ў гэтай справе. Войт сказаў, што стараста паўторна, асабіста забараніў яму сьцьвярджаць подпісы, але дзякуючы нашым безперарыўным дамаганьням, войт абяцаў заўтра г. ё. 17.III. 1925 г. яшчэ раз зьвярнуцца да старасты і даць аканчальны адказ. Калі мы ў гэты дзень вечарам яшчэ раз пашлі да войта па аканчальны адказ, ён сказаў, што распараджэньне ад старасты ўжо атрымаў і з заўтрашняга дня пачне сьцьвярджаць подпісы.

Калі-ж мы 18.III. 1925 г. прынясьлі дэкларацыі, гэты самы войт п. Аброцкі заявіў, што сягоньня ён быў узноў паклікані праз старасту, які сказаў, што подпісы могуць быць сьцьверджаны толькі пры выпаўненьні гэтакіх варункаў: каб на кожнае дзіцё пры дэкларацыі была мэтрыка і за кожны подпіс браць 1 злоты.

Прымаючы пад увагу вышэй паданае і маючы дужа кароткі тэрмін для складаньня дэкларацыяў у інспэктарат школьны і відзячы, што тутэйшыя ўлады, як войт і стараста сьвядома паступаюць так, каб адцягаваць справу да гэтага тэрміну, просім Бел. Пас. Клюб аб інтэрвэнцыю перад вышэйшаю ўладай з мэтай прадаўжэньня тэрміну дла складаньня дэкларацыяў школьных і змушэньня ўлады да выкананьня школьнае ўставы і распараджэньня ў справе сьцьвярджэньня подпісаў на дэкларацыях школьных бязплатна, або выдэлегаваць на мейсца пасла для адпаведнае інтэрвэнцыі, у праціўным-жа разе, паміма надмерных стараньняў мясцовае люднасьці мы ня будзем мець ніводнае беларускае школы ў Стаўпэцкім павеце.

Адначасна дадаём, што Базыля Шчорса і Мікалая Шкутко, грамадзян Новы-Свержэнь, якія дамагаліся прад старастам і войтам сьцьверджаньня школьных дэкларацыяў — зачынае праследаваць паліцыя. У Б. Шчорса трэбуюць вайсковае кніжкі, ня гледзячы

# З Радавай Беларусі.

### Беларусізацыя рабфаку ідзе туга.

„Сав. Бел." падае цікавыя весткі аб праводжаньні ў жыцьцё пастановы аб беларусізацыі так-званага „рабочага факультэту" („рабфаку") ў Беларускім Дзяржаўных Унівэрсытэце ў Менску.

Адным з балючых пытаньняў рабфаку зьяўляецца пытаньне беларусізацыі. У сёлетнім школьным годзе першы курс пераведзен выключна на беларускую мову (расейская мова, як прадмет).

Адно, што перашкаджае хуткаму тэмпу беларусізацыі, гэта тое, што падручнікі на расейскай мове, а выкладаньне ідзе на беларускай мове. Тут рабфакаўцам самым прыходзіцца перакладаць тыя ці іншыя тэрміны з расейскай на беларускую мову.

Што-ж тычыцца настаўніка, то яны, трэба сказаць, мала падрыхтаваны да беларусізацыі: на заключных і ўступных канфэрэнцыях большаю часткаю „сякуць" парасейску.

Нават сам дэкан рабфаку грам. Слонім ніколі ні „славечка, ні беднага" не заікнецца пабеларуску.

### Перасяленьне беларусаў з Калінінщчыны.

Па пляну Наркомзему для Калінінскай акругі было дадзена ў Заходняй і Ўсходняй Сібіры месц на 4530 чал., акрамя плянавага перасяленьня, насельніцтва ехала само.

Усяго было накіравана ў плянавым парадку на Усходнюю і Заходнюю Сібір 120 хадакоў ад 826 сямействаў—5407 душ, зьвярнулася залічыўшымі зямлю 46 хадакоў.

Пераселена па пляну ва Усходнюю і Заходнюю Сібір 34 сям'і, не па пляну на поўдзень і поўдня-ўсход 150 сямей—793 душы.

Каб здаволіць заданьне насельніцтва, на гэты год для Калінінщчыны патрэбна перасяліць каля 12.000 душ.

### Надзяленьне жыдоў у Калінінщчыне зямлёй.

Наркамземам для надзяленьня жыдоўскага жыхарства была выдзелена плошча зямлі запаснога фонду ў 600 дз.; каб засяліць гэту плошчу была праведзена кампанія па выяўленьню і рэгістрацыі жыдоўскага насельніцтва, якое хоча заняцца апрацоўкай зямлі. Рэгістрацыяй было ўстаноўлена, што жадаючых заняцца працай па апрацоўцы зямлі маецца 8266 чал.

Да сучаснага моманту арганізавана 5 арцеляў, якім перадана быўшая абшарная зямля з маючыміся там будынкамі на плошчы 449 дз., або заданьне выканана на 75 проц.

### Рыначныя цэны на сялянскія прадукты ў Менску.

Пшаніца 1 р. 60 кап. пуд, жыта 1 р. 40 кап., авёс 1 р. 10 к., ячмень 1 р. 25 к., льняное насеньне 1 р. 90 к., бульба 1 р. 40 к. асьміна, яйкі 60 к. за 10 шт., сена 1 р. пуд, салома 50 к. пуд, аўчынка сырая 2 р. 75 штука.

# З Польшчы.

### Саюзы шынкароў хочуць узяць у карыстаньне сьпіртавы манаполь

Жыдоўская прэса ў Варшаве падае вестку, што злучаныя саюзы шынкароў у Польшчы зьвярнуліся да ўраду з мэмарыялам (прапазыцыяй), каб аддаць ім у арэнду на 20 гадоў сьпіртавы манаполь, дакляруючы за гэта пазычку для ўраду ў суме 70 мільёнаў даляраў.

А калі ўрад прадоўжа арэнду гэтага манаполю да 25—30 гадоў, саюзы згаджаюцца падняць суму пазычкі да 100 мільёнаў даляраў.

### Справа арэнды тытунёвага манаполю.

Польскія газэты пярэчуць вестцы, быццам польскі дзяржаўны тытунёвы манаполь меўся быць аддадзены на выгадных варунках фірмам францускім. Як інфармуюць з пэўных крыніцаў,—ніякай прапазыцыі ад францускіх фірмаў ня было.

Што-ж датычыць амэрыканскай дэлегацыі, якая прыяжджала да Варшавы ў справе арэнды тытунёвага манаполю, аб чым ужо пісалася ў газэтах, дык яшчэ ня ведама, якія варункі гэта дэлегацыя запрапануе ўраду і гэта будзе ведама, калі дэлегацыя вернецца з Нью-Іорку, куды выехала дзеля паразуменьня з належнымі ўстановамі.

### Безрабоцьце ўсьцяж расьце.

Афіцыяльная статыстыка ізноў сьцьвярдзіла ўзрост безрабоцьця ў Польшчы за апошні тыдзень (10—16 студзеня) на 14.692 асобы. Агульная лічба безработных дайшла ўжо да 341.380 чалавек. І гэта—толькі ў местах, дый то—толькі тыя, што зусім ня маюць працы, не залічваючы сюды тых, што працуюць па 1, па 2 дый па 3 дні ў тыдзень.

# З Заграніцы.

## РАДАВАЯ РАСЕЯ.

### Праца зямельнае плянавае камісіі пры Наркамземе.

Зямельная плянавая камісія ў 1926 г. значна пашырае працу. Арганізуюцца пастаянныя камісіі з удзелам лепшых спэцыялістаў дзеля згоды сельскае гаспадаркі з пытаньнямі ўнутранага і замежнага гандлю, на аснаўных галінах вытворчасьці, падатках, транспарту, тарыфаў, крэдыту, каапэрацыі і спэцыяльным культурам. У аснову чыннасьці зямельнае плянавае камісіі пакладзена праца, каб пагадзіць плян Наркамзему РСФСР з агульнаю эканамічнаю палітыкаю дзяржавы ў галіне сельскае гаспадаркі.

### Справа перасяленьня сялян у Сібір.

Экспэдыцыя Наркамзему РСФСР, камандыраваная ў Сібір і на Далёкі Усход, знашла, што на Далёкі Усход у працягу наступных 10 гадоў можна перасяліць больш 1-га мільёну чалавек, прычым толькі ў Прыморскую губэрню можна перасяліць за гэты час каля 500 чалавек. У Сібіры намечаны шырокі плян чыгуначнага і шасовага будаўніцтва, а гэта дасьць магчымасьць сяліцца ў паўднёвых раёнах тайгі, якія знаходзяцца каля сплаўных рэчак.

### Магчымасьць вайны на Усходзе.

Кітайска-Савецкае непаразуменьне паглыбляецца, якое ўзнялосе на тле Манжурскае чыгункі. Чыгунка гэта была пад тымчасоваю ўправаю Саветаў, якія з яе поўнасьцю карысталі.

Покуль у Кітаі быў у сіле гэн. Фэнг падтрымліваны бальшавікамі, датуль усё было ў парадку. Бальшавікі падвазілі па ей Фэнгу аружжа і дазвалялі карыстаць з яе Кітайцам. Але пакінула шчасьце ваеннае гэн. Фэнга і перайшло да гэн. Цан-Со-Ліна, які мае дапамогу з боку Англіі, Амэрыкі і Японіі. Цан-Со-Лін патрэбаваў чыгункі Манжурскай ад Саветаў для перавозу сваіх войскаў, а дзеля таго, што бальшавікі не дазвалялі на перавоз кітайскіх, ня любых сабе, войск, кітайцы сілаю заўладалі чыгункай; начальніка гэтай чыгункі, савецкага чыноўніка, арыштавалі і паставілі свайго. Проці гэтага дужа востра выступілі бальшавікі і заявілі, што будуць аружна дахадзіць праў сваіх.

Ангельскія газэты паведамляюць, што бальшавікі сьцягваюць на Усходзе вялікія сілы і думаюць, што вайна між бальшавікамі і Кітаем можа хутка выбухнуць. На Усходзе насьпяваюць паважныя падзеі. Гаворыцца нібы пра вайну бальшавікоў з Кітаем, але запраўды прыдзе да вайны бальшавікоў з Англіей за панаваньне над Кітаем.

## ЛІТВА.

### Літоўцы гатовяцца да аружнага захвату Вільні.

З Коўна даносяць, што сярод войска літоўскага вядзецца ўсіленная агітацыя ў справе вайны з Польшчай за Вільню. Дзеля гэтае мэты выбраны спэцыяльны камітэт, які месьціцца ў Коўне. У войску праз пэўных афіцэраў вядуцца гутаркі на тэму Вільні.

Апроч таго выдзеленая з камітэту сэкцыя, якая вядзе прапаганду сярод сялян і сабірае грошы на гэтую мэту. Сярод войска пануець пэўнасьць, што Вялікдзень спаткаюць у Вільні.

## НЯМЕЧЧЫНА.

### Два мільёны безработных у Нямеччыне.

Паводле апошняе статыстыкі, лік безработных у ваўсей Нямеччыне даходзе да двух мільёнаў. У Бэрліне лік безработных дайшоў да 210 тысячаў. Найбольш цяжкі стан безрабоцьця ў Руры, дзе 10 прац. работнікаў выдалена з капальняў. Лік безработных у Руры ў два разы большы, чым у ваўсей Нямеччыне.

# ХРОНІКА.

— **Паварот паслоў з СССР.** 27 студзеня беларускія паслы Ярэміч і Мятла вярнуліся з сваей падарожы ў СССР. Паслы нашы найбольш прабывалі ў Менску і прыглядаліся там да беларускага жыцьця.

— **Вечарынка ў Беларускай гімназіі.** 6 га лютага 1926 г. у залі Беларускай гімназіі адбудзецца вечарына на карысьць незаможных вучняў.

Пастаўлена будзе: 1) „Шчасьлівы Муж"—А. Аляхновіча—ставіцца першы раз у Вільні. 2) Канцэртны аддзел. 3) Скокі.

Пачатак а $6^1/_2$ у вечары.

Білеты прадаюцца ў канцэлярыі гімназіі ад 10 да 2—Астрабрамская 9,—а ў дзень вечарыны там-жа ад 3 па палудні.

Цана білету ад 1 зл. да 5 зл.

— **Аб адрэсаваньні пісьмаў пабеларуску.** Паводле распараджэньня аб мове ў паштовых, тэлеграфных і тэлефонных зносінах у ўнутраным абароце на абшарах ваяводзтваў: Палескага, Віленскага, Наваградзкага і паветаў Гарадзенскага і Ваўкавыскага, Беластоцкага ваяводзтва, адрэсы на звычайных пісьмах можна пісаць пабеларуску кірыліцай, папольску-ж павінна быць напісана **толькі пошта.** Гэтак сама можна пісаць адрэсы, пішучы з другіх абшараў Польшчы ў памянутыя беларускія землі.

Тэлеграмы можна пісаць пабеларуску **толькі лацінкай.**

---

на тое, што ён мае 50 гадоў і ня ёсьць у веку здатным для войска. Сышчыкі пытаюць суседзяў, ці ня мае Шчорс аружжа, амуніцыі ваеннай, бомбаў і г. д.

Пры гэтым перасылаем 57 школьных дэклярацыяў на 96 дзяцей, якія ня былі сьцьверджаныя і якія, дзеля новых вымаганьняў войта сьцьвярдзіць ня ўдасца, бо многа ёсьць дзяцей, якія радзіліся на чужыне і дзеля гэтага ня маюць мэтрыкаў".

2. У сакавіку месяцы 1925 г., сяляне вёскі Задвор'е, гм. Казлоўшчына, Слонімскага павету, ня раз зьвярталіся да войта гміны аб сьцьвэрджаньні школьных дэклярацыяў у справе беларускае школы. Войт гміны адмовіўся сьцьвярджаць подпісы, а ў сьлед за тым паліцыя арыштавала солтыса вёскі Задвор'е В. Сіняка за ўдзел у працы над адкрыцьцем беларускае школы.

Акрамя таго, паліцыя пачала дакучаць вучыцелю прыватнае беларускае школы, Ал. Тарасюку, цягаючы яго на пастарунак, сьпісваючы пратаколы і прымушаючы вучыцеля падпісваць без прачытаньня іх.

3. Жыхары вёскі Барадзенічы, гм. Ёды, Дісенскага павету, у сваім часе, міма перашкод са стараны школьнае ўлады і адміністрацыі, падалі інспэктару школьнаму ў Глыбокім дэкляраныі школьныя аб зьмене істнуючай польскай школы на беларускую. Аднак дасюль школы беларускае няма, а насяленьне пад прымусам кар грашовых змушана пасылаць сваіх дзяцей у польскую школу.

4. 13 сакавіка 1925 г. жыхары вёскі Пяскі тэй-жа гміны, Косаўскага павету падалі інспэктару школьнаму падпісаных і сьцьверджаных 65 дэкляраныяў школьных аб уводзе беларускае выкладовае мовы ў істнуючай у вёсцы школе. 25 сакавіка ўсе дэкляраныі апынуліся ў вучыцеля польскага ў в. Пяскі, які ўзяўся, па даручэньні інспэктара, за работу нягодную дзяржаўнага ўрадоўца. Вучыцель гэты, Міхал Мандзюха, пазывае да сябе бацькоў, якія дамагаюцца беларускае школы і змушае іх падпісваць дэкляраныі на польскую школу. Прымус гэты праяўляе ён у тым, што страшыць сялян турмой, а прысутны пры гэтым, азброены паліцыянт сьпісвае пратаколы на сялян, якія адказваюцца падпісваць дэкляраныі ня згодныя з іх волею і жаданьнямі. Паліцыянт падпісваў дэкляраныі за непісьменных, ня лічачыся зусім з іх волею.

5. Школьныя інспэктары ўсімі сіламі стараюцца не дапусьціць да паўстаньня беларускае школы. Спосабы гэтыя да таго недапушчальныя, што могуць быць караныя на падставе кадэксу карнага, а гэта: ашуканства і прымус. Вот-жа школьныя інспэктары змушаюць браць назад школьныя дэкларацыі на беларускую школу, а там, дзе прымус не памагае, ўлада школьная стасуе ашуканства. На довад гэтага ніжэй падаём зьмест просьбы ськіваванай да інспэктара школьнага Пружанскага павету: „Мы жыхары вёскі Расахі, гм. Маскоўскай, Пружанскага павету Міхал Панасэвіч, Ахрэм Клюкач, Даніла Варыцкі, Алекс Яроміх, якія падалі пану праз паўнамоцнікаў Яна Панасэвіча і Язэпа Клюкача дэкляраныі з жаданьнем навучаньня дзяцей нашых у роднай беларускай мове, 12-га траўня, у вёсцы Расахі, пад прымусам п. інспэктара мы падпісалі нейкую дэкляраныю ў справе школы. Гэтым заяўляем пану, што адказваемся ад гэтых подпісаў і просім пакінуць у сіле перш паданыя дэкляраныі з жаданьнем навучаньня дзяцей нашых у беларускай мове. 26 траўня 1925 г.".

Падобныя факты ёсьць агульным зьявішчам і ў сваім часе Беларускі Пасольскі Клюб складаў адпаведныя інтэрпэляцыі.

У справе падобных надужыцьцяў школьных Бел. Пас. Клюб у часе ад 28 лістапада 1924 г. да 20 кастрычніка 1925 г. злажыў п. Прэзэсу Рады Міністраў і Мін. Выз. Рэл. і Асьв. Публ. 49 інтэрпэляцыяў, на якія дасюль або жаднага ня было адказу, або ўрад даваў нездаваляючыя адказы — адказы ня згодныя з праўдай.

Паміма ўсіх перашкодаў і прасьледаваньня праз паліцыю акцыі складаньня школьных дэкляраныяў, бацькі дзяцей у школьным веку, па выпаўненьні ўсіх вымаганых фармальнасьцяў злажылі школьным уладам 412 камплетаў школьных дэкляраныяў, гэта знача на 412 беларускіх школаў на 1925—26 школьны год.

Знача, маем языковую школьную ўставу, маем выканаўчы загад да гэтае ўставы, маем выпаўненыя ўсе фармальнасьці на 412 беларускіх школ, а ці адчынена хоць адна беларуская школа? Не, ні адна беларуская пачаткавая школа не паўстала дзякуючы „дабрадзейству" уставадаўства польскага і „добрым намярэньням" школьнае ўлады, не паўстала так-жа ні адна ўтраквістычная (двуязычная) школа. Мала таго, паднятая праз беларусаў, на падставе языковае ўставы, акцыя школьная безцэрамонна нішчыцца праз паліцыю і ўладу школьную, арыштовываючы беларускіх вучыцялёў і паўнамоцнікаў дэклярантаў. Факты гэтых надужыцьцяў былі ўжо паданыя ў адпаведных інтэрпэляцыях.

(Далей будзе).

У тэлефонных гутарках можна карыстацца таксама беларускай мовай.

Кожны беларус павінен скарыстацца з гэтага распараджэньня і паслугоўвацца роднай мовай на пісьмах. Трэба браць усё магчымае, паказаць, што мы пісаць пабеларуску хочам і не прапускаем ніводнае магчымасьці, каб скарыстацца хоць з прымітыўных сваіх правоў.

— **Беларускі адрыўны календар на 1926 год**. На днях выйдзе з друку ў другім выданьні пасьля канфіскацыі беларускі **адрыўны** сьценны календар на 1926 год.

Календар багаты цікавым літэратурным зьместам, з праваслаўнымі і каталіцкімі сьвятамі; друкаваны кірыліцай (гражданкай) і лацінкай.

— **З жыцьця Студэнтаў-Беларусаў.** У надзелю 17.1. 1926 г. адбыўся чарговы таварыскі рэфэрат у Студентаў-Беларусаў. Прачытаў рэфэрат кал. А. Зянюк на тэму: „Крызіс парлямантарызму“. Пасьля рэфэрату адбылася гарбатка і скокі.

— **Суд над Літоўскай рэдактаркай.** Віленскі Акружны Суд у запрошлым тыдні разглядаў справу рэдактаркі літоўскай газэты „Lietuvos Keliss“ — Ганны Завішанкі, абвінавачанай паводле 129 і 154 артыкулаў К. К. за тое, што ў 17, 18 і 25 нумэрах памянёнае газэты былі зьмешчаны артыкулы „антыдзяржаўнага“ зьместу.

Рэдактарка Завішанка мела тры справы і за кожную з гэтых справаў была пакарана па 200 злот. або па месяцы арышту.

Адначасна з рэдактаркай быў пацягнуты да адказнасьці аўтор некатарых артыкулаў Вінцук Уздзавічус, які на суд не зьявіўся.

— **Літоўская вечарына.** У нядзелю 24.I. с. г. ў парахвіяльнай салі касьцёла сьв. Міколы была літоўская вечарына („Vakarelis“).

Адыграна была камэдыя „Зладзеі“ (у 4-х частк.), а пасьля выступаў хор літоўскай гімназіі са сваімі прыгожымі песьнямі.

Праграма вечарыны закончылася скокамі.

— **Сабраньне Кола „Rytas“.** 18 г. м. адбылося паседжаньне меснага літоўскага кола „Rytas“. Усе абрады былі пасьвячаны бюджэту на 1926 год.

— **Паўстаньне „Kresowego Stronnictwa Włościańskiego.** 23 студня г. г. у Вільні, група крэсовая і паслы з Віленскага і Наваградзкага ваяводства, нараджаліся над сытуацыяй утварыўшайся, дзякуючы развалу „Wyzwolenia“. Нарады мелі „poufny“ характар, у выніку якіх усе паслы (7), за выняткам пасла Галкі і сэн. Каліноўскага, пастанавілі выйсьці з „Wyzwolenia“ і ўтварыць клюб пад назовай „Kresowe Stronnictwo Włościańskie“. Дзеля высьвятленьня прычын змусіўшых іх да выступленьня з „Wyzwolenia“ абяцалі выдаць адкрытае пісьмо да выбаршчыкаў.

— **Новая чыгуначная тарыфа.** З 1 лютага на чыгунках будзе ўведзена новая тарыфа асабовая (cenу na bilety): да 200 кілямэтраў—за 1 кіл. 5 гр., ад 200 да 400 кіл.—за 1 кіл. 4 гр., ад 400 да 600 кіл.—3 гр. і ад 600 і больш — 2 гр. за 1 кілямэтр III-ае клясы.

— **Забойства студэнта.** 25 г. м. а гадз. 4 м. 35 на вул. Ягелёнскай быў забіты студэнт Владыслаў Бончкевіч.

Справа прадстаўляецца так, што між нейкім п. Карніцкім-Смолеўскім і Дзердзееўскім была справа ганаровая, якая скончылася аднастаронна на некарысьць Дзердзееўскага, які каб адамсьціць Карніцкаму, сабраў некалькі студэнтаў і напаў на Карніцкага з кіямі. Падчас бойкі Дзердзееўскі дастаў рэвольвэр, што ўбачыўшы Карніцкі паперадзіў яго і выстраліў, але папаў у студэнта Бончкевіча, кладучы яго трупам.

Карніцкі і Дзердзееўскі арыштаваныя.

# Пісьмы з вёскі.

### Не выкананьне законаў.

Вёска **Рачканы**, гміны Ляхавіцкай, Баранавіцкага павету.

Вёскі Рачканы, Рашкоўцы і Гаслаўшчына складаюць школьны абвод у Рачканах.

Яшчэ да 31-га сакавіка 1925 г. бацькі дзяцей школьнага ўзросту, гэтага абводу, зложылі школьнаму інспэктару ў Баранавічах дэкляраций на 65 дзяцей аб навучаньні іх у роднай беларускай мове.

Пасьля гэтага пачаліся нялічаныя позвы і дахаджэньня. Тры разы інспэктар прыяжджаў ў маёнтак Грушаўку, які так-жа належыць да нашага школьнага абводу і туды пазываў дэклярантаў з вёскі Рашкоўцы. І на астатак не явіўшыхся пазываў у Баранавічы і ўсімі спосабамі стараўся, як найбольш абаламуціць нашых сялян. Нават рабіў закіды нам у процідзяржаўнай працы на школьным грунце.

Але гэта пану інспэктару не ўдалося, сяляне дабіваліся свайго.

У пачатку сёлетняга вучэбнага году, мы атрымалі ад п. інспэктара паведамленьне, што ў вёсцы Рачканах адчыняецца двуязычная Польска-Беларуская школа і навет у школьнай праграме ёсьць 2 дні ў тыдзень выкладаньне беларускай мовы. Нашы сяляне вельмі нездаволены гэткім заключэньнем куратара Палескага школьнага округу, але пан інспэтар і да гэтага часу не выканоўвае гэтых распараджэньняў. У зьвязку з гэтым мы маем у сваей школе вучыцялёў польскіх ажно 4, а беларускага ні аднаго і ня маем беларускай мовы ў школе.

Ці ня зьвернуць увагі на гэта нашы паслы, або Цэнтральная Беларуская Школьная Рада?

**Ю. Я. В.**

### Падатлівасьць на навіны.

Вёска **Пяцюлі**, Радашкоўскай гміны.

Вельмі ўжо людцы ў нашай вёсцы падатлівы на ўсялякае люднае зьявішча. Вось напрыклад зьявілася каля нас новая вера, нашы і спахваціліся. Хоць мала, але ўхапіліся за гэту веру як сьляпы за плот. А трасуцца-ж дык як у ліхарадцы, як моляцца. Завуць іх нашы трасунамі. Часамі гэга набажэнства даходзіць да дзікага фанатызму. Калядмі напрыклад маліліся, а тагды ўзяліся гуляць у ножыкі, у выніку чаго за веру ёсьць „мучанікі“ з папрарэзанымі галовамі і плячамі. Ну, але што зрабіць з цемрай! Лепш-бы вы, Пяцюляўцы, выпісалі беларускіх газэт ды пачыталі роднае слова, чым гуляць у „трасуніху“. Або лепш ужо паскакалі-б сабраўшыся Лявоніху ці Карнаціцу, было б прыгажэй.

**М. Р.**

# Новыя выданьні.

Пачатак 1926 году ўзбагаціўся новымі беларускімі выданьнямі—гэта:

№ 1 гумарыстычнае часопісі **„Маланка“ і адрыўны сьценны календар на 1926 год**.

Ня гледзячы на тое, што аб „Маланцы“ ўжо пісалася ў нашай газэце, варта яшчэ раз адзначыць, што рэдакцыя „Маланкі“ першую сваю пробу зрабіла вельмі ўдачна. Прыраўнываючы „Маланку з іншымі гумарыстычнымі часопісямі, прадаванымі на тутэйшым газэтным рынку, сьмела можна сказаць, што беларуская „Маланка“ адразу заваявала сабе першае месца. Рысункі выканаваны досьць добра і хоць маюць невялічкія нястачы з боку мастацкага, ўсё-ж заслужываюць сабе нямалае пахвалы. Літэратурны зьмест настолькі багаты і цікавы, што прачытаўшы раз, хочацца чытаць яшчэ і яшчэ.

Вонкавы выгляд вельмі прыгожы.

Малая цана (ўсяго два злоты на тры месяцы) робяць „Маланку“ вельмі даступнай нават для самага найбяднейшага селяніна.

Трэба спадзявацца, што і далейшыя нумары „Маланкі“ будуць гэтакімі цікавымі і прыгожымі, як і першы нумар, а кожны селянін—беларус не паскупіцца дробных выдаткаў на сваю родную гумарыстычну часопісь.

Калі „Маланка“ стаіць на першым месцы з іншымі гумарыстычнымі часопісямі, дык **беларускі адрыўны календар** далёка апярэдзіў усе краёвыя выданьні. Гэтакага календара яшчэ ня было, дый няма, які можна было хоць троха параўняць з нашым беларускім. Двох шрыфтовая сыстэма друкаваньня гражданскі і лацінскімі літэрамі, робіць календар прыгодным для беларусаў праваслаўных і каталікоў. Усход і заход сонца паводле самых сьцiслых астранамічных аблічэньняў дае можнасьць на вёсцы штодзень рэгуляваць гадзіннікі згодна з новым сярэдне-эўрапэйскім часам, які прыняты цяпер у Польшчы. Дасьледчыкі пагоды знайдуць сабе ў календары паказаньні паводле сталетняга календара Бруса.

Кожны, хто будзе мець адрыўны беларускі календар, што дзень адрываючы картку, знойдзе там усё, чым толькі можа цікавіцца чалавек: розныя практычныя і гаспадарчыя рады, як гадаваць і вучыць дзяцей, найцікавейшыя вынятакі з гісторыі і географіі Бацькаўшчыны, апісаньні жыцьця найлепшых беларускіх пісьменьнікаў і дзеячоў, найпрыгажэйшія беларускія вершы, найсьмяшнейшыя жарты, статыстыку з усяго сьвету і гэт. далей і гэт. далей.

Адным словам, знойдзе ўсё тое, чаго ніколі ня знойдзе ў іншых календарах.

Аўтату календара пахвала, чэсьць за ўмелае вельмі ўдачнае састаўленьне календара!

На жаль трэба адзначыць, што календар выйшаў даволі позна з прычыны канфіскацыі першага выданьня яшчэ ў кастрычніку мінулага году. Адміністрацыя і судовыя ўлады трымалі забарону на календар аж да гэтае пары.

Ня гледзячы на тое, што некатарыя сяляне-беларусы купілі сабе польскія, ці расейскія адрыўныя календары, усё-ж-такі трэба спадзявацца, што ніводзен сьвядомы беларус не застанецца ў гэтым годзе без свайго роднага беларускага адрыўнога календара, тым болей, што за гэтакі багата выданы календар, назначана даволі нізкая цана (ўсяго 1 злоты, а для прадаўцоў 30 прац. скідкі).

**Купіць і пашыраць беларускі адрыўны календар—абавязак кожнага ідэйнага беларуса!**

**Янка Барысавец.**

# Абвестка.

Шчыра прашу быўшых вайсковых беларусаў расейскай арміі, хто служыў у **Ржэве** ў 1915, 1916 і 1917 годзе ў 52 і 53 палку і добра знае афіцэраў **Васіля Жданава** і **Філарэта Кашпурава**—адгукнуцца. За перапіску мной будзе аплачана з удзячнасьсьцю. Прашу пісаць на Рэдакцыю **„Сялянскай Нівы“** на імя **Р. Максімовіча**.







Рэдактар-Выдавец: **Ст. Вольскі.**

Друкарня **Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая вул. № 22.